ПУБЛІКАЦЫІ

# Новы парадак

*(Заканчэнне. Пачатак на 5-й стар.)*

Макар начапіў на нос акуляры і пачаў узірацца ў карту, на якой нават райцэнтры не былі пазначаны, а толькі абласныя гарады. Пасля доўгіх пошукаў адшукаў Гомель і тыцнуў пальцам крыху ніжэй, дзе, на яго думку, і знаходзілася наша вёска.

– Вось тут.

Курт, пабачыўшы бяскрайнія прасторы, што цягнуліся за памечаным месцам зялёнай паласой далёка на ўсход, схапіўся за галаву і роспачна замармытаў:

– У што мы ўляпаліся, ідыёты! Не, такія прасторы нам ніколі не асіліць!

Доўга яшчэ сядзелі за сталом Макар з Куртам. Нешта лапаталі на незразумелай сямейнікам мове, потым пілі несалодкую гарбату, для заваркі якой Макар, накінуўшы кажушок, збегаў у маліннік, што разросся за пуняй, наламаў пук ад марозу крохкага вецця, убег у хату, укінуў галінкі маліны ў кіпень і толькі тады пайшоў у сенцы і дзеркачом стаў збіваць снег з валёнак.

Пасля вярнуўся ў хату, зняў чыгунок з трыножкі, паставіў далей ад цяпла і накрыў патэльняй – хай добра запарваецца маліннік! Праз некаторы час Макар разліў жаўтлявы малінавы адвар у алюмініевыя карцы і панёс да стала. Так, размаўляючы, яны сёрбалі гарачую гарбату, быццам сустрэліся пасля доўгай разлукі добрыя прыяцелі, прыселі, няспешна вядуць гаворку, забыўшыся, што ідзе вайна і дзесяцi тысячамі гінуць маладыя, прыгожыя хлопцы, апранутыя ў салдацкія шынялі.

Пасля гэтага вечара Курт зачасціў да Макара. І заўсёды прыходзіў з гасцінцамі. То солі прынясе, то цукру колькі драбкоў, то невялічкую пляшачку шнапсу на стол паставіць, і потым з Макарам маленькімі чарачкамі, што захаваліся яшчэ з царскіх часоў, увесь вечар п'юць тую гарэлку. Курт не быў п'яніцам, выпіваў свае дзве-тры чаркі, і, як бы ні ўгаворваў яго Макар выпіць яшчэ хоць якую кроплю, ён цвёрда казаў сваё "найн" і закрываў далонню малую чарку. Цягнула яго да Макара неадольная патрэба выказацца. Сваім Курт баяўся адкрыць тое, што накіпела ў яго душы, яшчэ данясуць гаўптману з раённага гарнізона, а Макару можна даверыцца, зразумее стары ваяка, паспачувае – і лягчэй стане на сэрцы.

"Падмануў нас фюрэр, абяцаў вайну закончыць да халадоў, а ўжо лютая зіма цісне маразамі, а мы ўсё топчамся на месцы, ды каб жа сядзелі на абжытым, то ж не, гоняць нас ад Масквы як мага далей. І скуль толькі ў рускіх сілы бяруцца? Улетку ж разбілі іх ушчэнт. Мільёны аказаліся ў палоне. Лагеры для палонных не паспявалі будаваць, абнясуць тэрыторыю калючым дротам, паставяць вышкі, часовы барак з дошак для немцаў – і ўсё, лагер гатовы, а дзе будуць спаць палонныя, што есці, ніхто не задумваўся. Лета ж, і на зямлі паспяць палонныя, не замерзнуць. А як кармілі іх – сорамна ўзгадваць! Марылі голадам. Колькі гаротнікаў памерла ў тых лагерах – адзін Бог ведае! Цяпер расплачваемся за тую летнюю самаўпэўненасць. Далі па зубах, каб ганарліва не задзіралі насы.

Дзеткі мае, каб вы толькі ведалі, як сумую я па вас! Хвалююся за старэйшага сына Бернхарда, якому нядаўна споўнілася 15 год. Калі вайна зацягнецца, то і ён паспытае салдацкай долі. Хоць бы хутчэй скончылася гэта ліхалецце! Як там любая Эльза спраўляецца з меншымі дзяўчынкамі? Малодшая, Барбара, крыху большая за гэта, напалоханае вайной дзіця славянкі з шэрымі, шырока раскрытымі вачыма, гледзячы на якую, я міжволі ўспамінаю цябе, і іншы раз так хочацца прыгарнуць яе, пагладзіць па галоўцы, крануцца валос, заплеценых у дзве невялікія коскі. Калі я хоць адзін дзень пабуду з вамі, мае дарагія, родныя? Каб вы ведалі, як маё сэрца рвецца да вас, як хочацца мне абняць вас, прыціснуць да грудзей і ад шчасця заплакаць, не саромеючыся слёз!"

Такія пакутлівыя думкі апаноўвалі Курта з кожным днём усё больш. Імі нават з добрым старым Макарам Курт не мог падзяліцца. Расказаў толькі, як ён сумуе па доме, па сваёй сям'і, дзецях.

Праўда, аднойчы прагаварыўся, што іх войскі цярпяць паражэнне пад Масквой. "Адступаюць на новыя пазіцыі", – папраўіў сябе Курт, спахапіўшыся, што ляпнуў лішняе. І хоць Макару далёка не ўсё мог паведаць Курт, тым не менш, як надыходзіў вечар, яму хацелася пабачыцца са сваім новым знаёмым, і ногі самі цягнуліся за рэчку ў хату Макара.

З наступленнем халадоў у школе, дзе размясціўся нямецкі гарнізон, пачалі паліць грубкі. Вялікую школу ўзвялі: сем класных памяшканняў, майстэрня в варштатамі і дрэваапрацоўчым станком, настаўніцкая і нават два невялікія пакойчыкі для пражывання дырэктара школы. І ў кожным класе свая грубка. І ў настаўніцкай грубка, і нават у кватэры дырэктара была грубка і руская печка з умураванай жалезнай плітой.

Для таго каб напаліць дзесяць грубак і адну печ, бургамістр Раман прызначыў брыгаду нарыхтоўшчыкаў дроў. Двое з конямі на санях ездзілі ў лес шукаць сухія сосны і елкі, пляжылі іх, абсякалі суччa, раскрыжоўвалі на трохметровыя палены, грузілі на санкі, увязвалі вазы вяроўчынай, паволі выязджалі з лесу і на сцямненні ўжо ля школы разгружалі свае вазы. Яшчэ двое работнікаў пілавалі раней прывезеныя палены на паўметровыя цельпукі, а трэці калоў іх.

А дзявятай гадзіне, калі толькі-толькі пачынала світаць, прыходзілі нарыхтоўшчыкі дроў. Спазняцца баяліся. Немцы за гэта сурова каралі. Пілавалі па ўсталяванай чарзе. Сёння выпала гэта доля старому Ахрэму і яго равесніку Рывону. Трэцім быў 14-гадовы падлетак Валодзька, апрануты ў старую кухвайку і падперазаны вузкай папружкай, з калуном на плячы. Ён дапамог усцягнуць на козлы тоўстае сасновае палена, і дзяды пачалі навостранай пілой адпілоўваць паўметровы кавалак. Рэзалі, як мокрае гарыць. Не спяшаючыся, цягалі туды-сюды пілу, на снег павольна сыпалася пілавінне, спачатку шэрае з абалоні, а як піла сваімі вострымі зубамі ўпілася ў смольны стрыжань, то і апілкі зажаўцелі. Пакуль дзяды адрэзалі першы цяльпук, Валодзька паспеў пакалоць тры такія ж тоўстыя кавалкі.

Працавалі гадзіны дзве. Старыя павольна цягалі пілу, адвальваючы роўныя цельпукі, а падлетак разбіваў іх цяжкім калуном. Лоўка ў яго гэта атрымлівалася. Спачатку прыцэліцца вокам, куды апусціць калун, а потым падыме яго над галавой і з усяго маху гахне калуном у самую сярэдзіну, у смольны стрыжань, і цяльпук развальваўся на дзве роўныя палавіны. Калі ж адразу не ўдавалася раскалоць, тады Валодзька падымаў угору калун з цельпуком і што моцы біў абухом аб калоду.

Лупіў да таго часу, пакуль цяльпук не разлятаўся на дзве часткі, а ўжо драбней пашчапаць для хлапчука было няцяжка. Як запраўскі дрывасек, ён ставіў плашку на калоду і, прытрымліваючы яе левай рукой, спрытна адвальваў паленцы.

Хоць мароз стаяў градусаў пад дваццаць, а хлопец быў апрануты лёгка, у адну кухвайку, усё ж ён угрэўся, махаючы цяжкм калуном. А што мароз быў моцны, Валодзька вызначыў па дыме, што роўным слупам стаяў над комінам.

Тым часам старыя павольна шаркалі пілой. Адваліўшы чарговы цяльпук, яны, не спяшаючыся, пасунулі бервяно на козлах і ўзяліся за пілу.

У гэты час расчынілася акно, і з яго высунуўся здаравенны, голы па пояс немец з коратка стрыжанымі рудымі валасамі на галаве. Рукі і грудзі таксама пакрывала рэдкае жоўтае валоссе. Немец смактаў цыгарэтку, раз-пораз сплёўваючы за акно. Убачыўшы ў акне немца, Ахрэм успомніў, што ён сёння пайшоў пілаваць дровы без снедання.

– Смокча пад лыжачкай. Я ж не дачакаўся, пакуль мая баба картапляны суп заскварыць, так і пайшоў з хаты, не паснедаўшы. Пайду папытаю таго рудага таўстуна, мо адпусціць паснедаць. Як ты думаеш, Рывон? – звярнуўся Ахрэм да свайго напарніка. – Ён жа, бач, высунуўся з акна голы і курыць. І не холадна яму. Гладкі, увесь заплыў тлушчам – ніякі мароз яго не пройме. Пайду папытаю, за спрос не б'юць у нос! – І ён пасунуўся да акна, з якога вываліўся ледзь не па пояс руды немец, смачна зацягваючыся цыгарэткай і сплёўваючы на ўтаптаны пад акном снег.

– Панок, – падышоўшы да акна і стараючыся гаварыць лісліва, звярнуўся да немца Ахрэм. – Ці не адпусціў бы ты нас дадому? Мы толькі паабедаем і вернемся. Я ж сёння не паспеў нават паснедаць, баяўся спазніцца. То як, адпускаеш? – з надзеяй паглядзеў немцу ў вочы Ахрэм.

Немец з усяго сказанага старым чалавекам нічога не зразумеў, толькі адчуў, што гэты стары ў каляным кажушку нешта просіць у яго, а што просіць, адзін Бог ведае, таму ён, глянуўшы на гадзіннік, вырачыў свінячыя вочкі і закрычаў:

– Рус-с, работай! – і, плюнуўшы апошні раз, кінуў недапаленую цыгарэтку ў снег і зачыніў акно. Ахрэм, нешта бармочучы сабе пад нос, памалу пацягнуўся да козлаў.

– Ці ж сыты чалавек зразумее галоднага? – бурчаў Ахрэм, беручыся за ручку пілы. – Бач, ражку наеў, то ён будзе цябе слухаць. Работай! – перадражніў Ахрэм немца.

– Толькі і вывучыў адно слова, а камандуе. Раскамандаваўся! Едзь у сваю Нямеччыну і там камандуй, – ніяк не мог супакоіцца стары.

Пілавалі яшчэ гадзіну, а мо і больш. Нарэшце з дзвярэй школы выкаціўся невысокі немчык з вядром у руцэ і невялікім скруткам пад пахай і пашыбаваў да іх, трох дрывасекаў. Падышоў, паставіў вядро на калодку, на якой Валодзька калоў дровы, усміхнуўся і запрасіў:

– Эссен, кушайт! – і працягнуў кожнаму лыжку.

Вядро было напалову запоўнена гарачай тушанай бульбай з ладнымі кавалкамі свініны. На разгорнутай газеце – тры лусты хлеба. Падсунуўшы да калодкі бервяно, Ахрэм з Рывонам уселіся на яго, спаважна ўзялі свой хлеб і лыжкамі пацягнуліся да вядра.

– Кушайт, – яшчэ раз запрасіў з усмешкай на твары немчык і пайшоў у школу.

Пакуль трое дрывасекаў уміналі бульбу з кавалкамі сала, немчык зноў выкаціўся са школы з невялікім вядзерцам у левай руцэ, у правай ён нёс тры паліваныя карцы. Наліўшы ў іх карычневага, амаль чорнага, невядомага дагэтуль напою, ён пачакаў, пакуль гэтыя старыя вып'юць гарачую каву, і толькі тады павесіў на доўгі палец карцы і, узяўшы пустыя вёдры, пайшоў назад у тыя пакойчыкі, што прызначаліся дырэктару школы і дзе была руская печка з плітой, на якой гэты кругленькі немчык рыхтаваў сваім суайчыннікам снеданні, абеды і вячэры.

– А салодкі гэты напой, хоць і чорны, – прамовіў Рывон, верцячы з свайго мультану тоўстую цыгарку.

Пачакалі, пакуль Рывон дакурыць сваю суслу, і ўзяліся, павесялелыя, зноў рыхтаваць дровы. Ахрэм з Рывонам няспешна пілуюць чарговую калоду, а Валодзька махае і махае калуном, бо, пакуль абедаў, мароз, хоць і не такі моцны, як раніцай, залез пад бацькаву кухвайку, і трэба было грэцца.

Так працавалі гадзіны з дзве. Зімовы дзень кароткі, цямнець пачынае рана.

Ахрэм з Рывонам узвалілі на козлы чарговае палена і толькі адпілавалі адну калодку, як акно ў школе раскрылася, з яго высунуўся голы па пояс руды немец і на ламанай рускай мове закрычаў:

– Рус-с, дамоў, нах хаўс, бістра!

Валодзька, пачуўшы каманду, адразу нацягнуў вязёнкі, кінуў калун на плячо і пайшоў дадому, старыя ж толькі прыладзіліся адпілаваць яшчэ хоць адзін цурбан.

– Рус-с, дамоў, бістра! – раўкнуў яшчэ раз з расчыненага акна руды немец.

– Панок, дапілуем вось гэта палена і разыдземся па хатах, – азваўся Ахрэм, працягваючы распілоўку.

– Рус-с, дамоў! – зароў рыжы бугай, губляючы цярпенне.

– Пойдзем, пойдзем. Толькі дапілуем. Нядобра кідаць бярно на козлах, – імкнуўся супакоіць Ахрэм незразумела чаму раз'ятранага немца, працягваючы шаркаць пілой. – Чаго гэты рыжы сярдуе? – звярнуўся да Рывона Ахрэм.

– Рус-с, дамоў! – зрываючы голас, зароў тоўсты немец.

Такое непаслушэнства для немца дзіва. Ён прывык, каб людзі яго каманды выконвалі, а гэтыя старыя і вухам не вядуць.

– Мо пойдзем, Ахрэм, а то наклічам бяды. Бач, з сябе выходзіць гэты немец, – звярнуўся Рывон да свайго таварыша, працягваючы спакваля цягаць пілу. – Адпілуем апошнюю калодку і пасунемся памалу дамоў.

Бачачы, што старыя працягваюць працаваць, руды немец выскачыў з акна, размахваючы плёткай і крычучы на ўсю вуліцу:

– Што за дурны гэты рус-с! Калі рус-с работай – дамоў, калі рус-с дамоў – работай…

Убачыўшы налітыя крывёй вочы немца, Ахрэм з Рывонам не на жарт спалохаліся, сталі спешна выцягваць пілу з недарэзанага бервяна, і тут немец падскочыў да іх і агрэў нагайкай спачатку Ахрэма як галоўнага парушальніка новага парадку, а потым і Рывона. Старыя людзі атарапелі: за што ім такая кара? Яны ж толькі хацелі аддзячыць за сытны абед. І толькі калі немец ізноў аперазаў іх абодвух бізуном, тады Ахрэм з Рывонам дацямілі, што нечым угнявілі гэтага тлустага кабана, але чым, яны так і не зразумелі, спяшаючыся, выцягнулі пілу і пусціліся наўцёкі. А немец бег за імі і, лупцуючы, крычаў па-нямецку:

– Я навучу вас паважаць новы парадак!

І гэтак гнаў іх мо з сотню метраў. Потым павярнуўся і, цяжка сапучы і нешта незразумелае мармычучы на сваёй гартаннай мове, пацягнуўся ў школу.

А старыя, бачачы, што за імі ніхто не гоніцца, павольна папляліся да сваіх хат. Ім было не балюча, бо ніякі бізун не мог учыніць болю праз кажух, так – адзін гук, балела іншае – душа. Ім было крыўдна, што гэты руды немец гнаў іх, старых людзей, як шалёных сабак, перад сабой і нешта незразумелае ім гергетаў са злосцю. І што яны такое зрабілі? Чым вывелі з сябе гэтага тлустага кабана?

Так і разышліся па сваіх хатах, забыўшыся нават развітацца.

"Няўжо забыты бізун і ёсць новы парадак?" – думалі старыя Ахрэм і Рывон, сыходзячы з наезджанай дарогі на вузкія, пратаптаныя ў глыбокім снезе сцежкі, што прамымі шнуркамі цягнуліся да іх хат.

АСОБА

# «Зялёнае» святло Полацка

**Даведка**

**Анастасія АДАМОВІЧ** нарадзілася і вырасла ў Полацку. Скончыла Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці "менеджмент на вытворчасці". Каардынуе працу груп па ўстойлівым энергетычным развіцці горада, а таксама праект "ГарСвятло": энергаэфектыўная мадэрнізацыя вулічнага асвятлення ў Полацку. З'яўляецца тэхнічным экспертам праекта "Пагадненне мэраў – Усход ІІ" у Беларусі.

Любіць свой горад можна па-рознаму. Адны пішуць пра яго вершы і песні, другія імкнуцца праславіць працоўнымі дасягненнямі. А ёсць і такія, хто робіць старажытны горад сучасным, беражліва захоўваючы даўніну. Анастасія Адамовіч сярод іх. Ветлівая дзяўчына з цёплай усмешкай выбрала справай свайго жыцця "зялёную" энергетыку. У межах глабальнай еўрапейскай экалагічнай ініцыятывы "Пагадненне мэраў" яна вядзе праект "ГарСвятло" – энергаэфектыўная мадэрнізацыя вулічнага асвятлення горада. Рэалізуюць праект Полацкі райвыканкам і фонд "Інтэракцыя" пры фінансавай падтрымцы Еўрапейскага Саюза.

**– Анастасія, якія шляхі прывялі вас у "зялёную" энергетыку?**

– Я чалавек цікаўны – люблю адкрываць нешта новае для сябе. "Зялёныя" ініцыятывы спачатку былі маім хобі. Разам з аднадумцамі мы займаліся імі ў якасці валанцёраў. Да глабальных праектаў, якія сёння разварнуліся ў Полацку, мы ішлі не адзін год. Затое цяпер можам ганарыцца тымі пераменамі, што робяць наш родны горад лепшым.

**– Раскажыце, калі ласка, больш падрабязна пра тое, чым вы цяпер займаецеся.**

– Полацк першым сярод гарадоў нашай краіны ў 2009 годзе далучыўся да еўрапейскай экалагічнай ініцыятывы "Пагадненне мэраў" і стаў на шлях устойлівага энергетычнага развіцця. У рамках пагаднення і быў распрацаваны праект "ГарСвятло". Падчас яго рэалізацыі па ўсім горадзе заменяць электрычную сетку, з'явяцца самыя сучасныя святлодыёдныя свяцільнікі і аўтаматычная сістэма кіравання. Цяпер на 16 цэнтральных вуліцах горада мы мяняем звычайныя ліхтары на святлодыёдныя. Акрамя таго, старыя лініі электраперадач і слупы для ліхтароў, якія часта выходзяць са строю, мы таксама плануем замяніць.

**– Адкуль узялася патрэба ў такой маштабнай мадэрнізацыі асвятлення полацкіх вуліц?**

– Па-першае, святла проста не хапала: вуліцы ці асобныя іх участкі і сёння застаюцца цёмнымі, і не толькі ў нас, але і ў многіх іншых беларускіх гарадах. Якасць існуючага асвятлення вуліц таксама не самая лепшая. Па-другое, выдаткі, якія ідуць на забеспячэнне электрычным святлом горада, даволі вялікія. Па-трэцяе, звычайныя электралямпачкі ў ліхтарах зусім неэкалагічныя.

Згодна з праектам "ГарСвятло", да 2019 года на цэнтральных і ўязных вуліцах Полацка з'явіцца 1280 новых энергаэфектыўных свяцільнікаў, як святлодыёдных, так і тых, што працуюць ад энергіі сонца і ветру. Іх аптымізацыя за кошт аўтаматычнага кіравання асвятленнем дазволіць выдаткаваць энергіі на 63% полацкіх вуліц.

Праект палепшыць таксама дэкаратыўнае асвятленне гістарычных будынкаў і помнікаў, што зробіць наш горад больш камфортным і прывабным для турыстаў. Колькасць святлодыёдных дэкаратыўных свяцільнікаў павялічыцца ў 2–2,5 раза, а іх энергаспажыванне пры гэтым знізіцца на 5%. Чакаецца, што гэтыя змены дазволяць гораду знізіць спажыванне энергіі больш як на 1600 МВт·ч (прыкладна 15%) і паменшыць выкіды вуглякіслага газу больш як на 750 тон.

**– Напэўна, і грошай падобныя перамены патрабуюць нямала?**

– Святлодыёдныя ліхтары каштуюць дорага, некалькі соцень еўра за адзінку. Разам з тым яны эканомяць столькі электраэнергіі, што гэты кошт хутка кампенсуецца. Лішніх грошай у гарадскім бюджэце, вядома, няма. Таму, задумваючы праект "ГарСвятло", мы адразу пачалі шукаць іншыя спосабы фінансавання. Сур'ёзную падтрымку "зялёным" праектам аказвае Еўрапейскі Саюз, яго партнёр у Беларусі – фонд "Інтэракцыя". Мы атрымалі грант на суму звыш 1,3 мільёна еўра. Разам з грашыма нам аказалі і тэхнічную падтрымку. Дзякуючы экалагічнаму руху "Пагадненне мэраў", працуем у цеснай сувязі з калегамі-замежнікамі, пераймаем іх ідэі і досвед, але пры гэтым адаптуем пад беларускія рэаліі. Замежныя эксперты часта прыязджаюць у Полацк, даюць парады і праводзяць кансультацыі. Акрамя таго, штомесяц адбываюцца канферэнц-размовы па скайпе.

**– Акрамя праекта "ГарСвятло" ў Полацку распачалі яшчэ адну цікавую экаініцыятыву – па развіцці гарадской мабільнасці.**

– Сёння ў горадзе вялікая колькасць уласных машын, а грамадскі транспарт не адпавядае надзённым патрэбам людзей. У межах новага праекта мы імкнёмся зрабіць перамяшчэнне ў горадзе больш камфортным, бяспечным і, безумоўна, экалагічным.

Так, у мінулым годзе ў Полацку з'явілася першая веладарожка, яна пралягае праз праезную частку ў цэнтры горада і расцягнулася на 11 км выдзеленай паласы. На жаль, далёка не ўсе парадаваліся новаўвядзенню. Моцна абураліся некаторыя аўтаўладальнікі – дзеля веладарожкі "адабралі" адну паласу. Палачане пакуль не вельмі актыўна карыстаюцца веласіпедам як сродкам перамяшчэння, але думаецца, што гэта пытанне часу.

**– Цяпер для вас экалогія – гэта праца. А на ўласнае жыццё яна свой адбітак таксама налажыла?**

– А як жа! Менавіта з уласнага жыцця і пачалося. Спачатку я замяніла ў сваім доме лямпачкі. Наступным крокам стаў збор смецця ў асобныя пакеты. Гэта, шчыра кажучы, аказалася не такім ужо і лёгкім заняткам. Працей скінуць усё ў адзін пакет, але я сябе пераадольвала і сартавала асобна пластык, паперу, шкло… З іншага боку, успамінаю свае дзяцінства: тады ўсе здавалі шкляныя бутэлькі, нікому цяжка не было, і ніхто гэтага не саромеўся.

У мяне няма электрачайніка і мікрахвалёўкі – чамусьці многія забыліся, што ваду і ежу можна грэць і на пліце. Сваіх блізкіх і знаёмых я таксама імкнуся зацікавіць "зялёнымі" ідэямі. Напрыклад, на лецішчы ў бацькоў з'явілася кампоставая яма. Цяпер там амаль "безадходная вытворчасць".

У Еўропе "зялёныя" ініцыятывы даўно ўвайшлі ў штодзённае жыццё кожнага. У нас усё толькі пачынаецца. Нас вабіць высокі ўзровень заробкаў, але мяняць свае звычкі на шляху да "еўрапейскасці" не спяшаемся. Такім чынам, атрымліваецца, што мы самі тармозім сваё развіццё. Здаецца, ну як адна энергазберагальная лямпачка ці дадатковая сметніца на вуліцы можа паўплываць на нашу зарплату? Можа! Не забывайцеся, што капейка рубель беражэ. Уласны бюджэт кожнага з нас у многім залежыць ад дзяржаўнага бюджэту, і пра яго таксама варта клапаціцца. У Еўропе гараджане самі імкнуцца да эканоміі рэсурсаў – нам у напрамку экалогіі людзей пакуль што трэба падштурхоўваць…

## Пачні з сябе

### 5 крокаў да «зялёнага» жыцця:

* Змяніце звычайныя лямпачкі на энергазберагальныя. Так вы сэканоміце да 30% платы за электрычнасць. І памятайце, што прыборы, падключаныя да электрасеціва, таксама "ядуць" энергію (нават у выключаным стане).

* Хаця б раз на тыдзень замест аўтамабіля і грамадскага транспарту карыстайцеся веласіпедам. Гэта дазволіць вам быць у тонусе, сэканоміць бензін і зменшыць забруджванне атмасферы.

* Падчас чысткі зубоў і мыцця посуду не забывайцеся закрываць кран. Навошта, каб чыстая вада сыходзіла ў нікуды?

* Пасадзіце дрэва! Яно будзе сінтэзаваць кісларод і радаваць вас шапаценнем лісця ўлетку.

* Перастаньце набываць у прадуктовых крамах пластыкавыя пакеты. Замест іх купіце палатняную сумку. Сёння гэта самы модны трэнд!

**Ганна КУРАК. Фота аўтара.** ("Алеся".)

КРЫМІНАЛ

# Аўтамабілі беларусаў скралі падчас адпачынку

У Балгарыі ў гродзенскай сям'і скралі аўтамабіль BMW X5, які яны на час адпачынку пакінулі на неахоўваемай стаянцы. Другой ахвярай падобнага злачынства стала іншая гродзенская сям'я, уладальніца аўтамабіля Volkswagen Tiguan, які скралі ў Чарнагорыі разам з усімі дакументамі, у тым ліку і пашпартамі.

Цяпер, паводле слоў начальніка аддзялення інфармацыі і грамадскіх сувязяў УУС Гродзенскага аблвыканкама **Яўгена Дудко**, вядзецца ўзаемадзеянне з сіламі правапарадку ў Чарнагорыі і Балгарыі. Паводле яго слоў, гэтым летам за мяжой назіралася вялікая хваля зняцця дзяржнумароў, калі потым рознымі шляхамі ў іх уладальнікаў выцягвалі грошы. Будзьце пільныя, выпраўляючыся за мяжу на ўласным аўто!

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ОБЩЕСТВО

# ЕГУ все еще ждет. Нового ректора

*Документы соискателей принимаются до 20 сентября*

Европейский гуманитарный университет, основанный в Минске в 1992 году и с 2006-го работающий в Вильнюсе, снова объявил о начале конкурса на должность ректора.

Отцом-основателем и первым ректором ЕГУ был академик Анатолий Михайлов, признанный специалист в области немецкой философии. Свою должность он покинул в 2014-м, став президентом университета. Тогда для избрания нового ректора был учрежден временный комитет. На должность претендовали шесть человек – трое граждан Беларуси и трое граждан США. Представители белорусской демократической общественности настаивали на том, чтобы ректором ЕГУ был выходец из Беларуси, а сам университет сохранил белорусский вектор развития. Несмотря на это, общее собрание учредителей избрало новым ректором вуза американского профессора Дэвида Поллика, который работал в ЕГУ на разных должностях с марта 2014 года.

Вступая в должность, Поллик заявил, что намерен сделать ЕГУ «белорусским вузом в широком европейском контексте». Но в мае 2016 года завершил свою деятельность на этом посту из-за финансовых проблем, выявленных в ЕГУ аудиторами. Запахло коррупционным скандалом… Совладельцы ЕГУ сочли за благо расстаться с профессором, и назначили исполняющим обязанности ректора бывшего директора администрации Орхусского университета в Дании Йоргена Йоргенсена. Вскоре был объявлен международный конкурс на высокую должность, было подано 29 заявок, но комитет по отбору пришел к выводу, что на текущем этапе нет ни одного подходящего кандидата.

И вот снова конкурс: документы соискателей на эту позицию принимаются до 20 сентября. Ожидается, что новый ректор ЕГУ вступит в должность в первом квартале 2018 года.

**Елена МОЛОЧКО.**



СПЕЦИАЛЬНЫЙ РЕПОРТАЖ

# Командировка в… тюрьму

*Вы были когда-нибудь в следственном изоляторе? А на «химии»? В колонии? Корреспонденту «Народной Воли» удалось посетить сразу несколько режимных заведений. Департамент исполнения наказаний МВД Беларуси «прогнал по этапу» журналистов, изъявивших желание посетить места не столь отдаленные. Спецкомандировка на Брестчину получилась насыщенной: я побывал в барановичском СИЗО и на «химии», а также в исправительной колонии №22 («Волчьи норы»), где содержатся люди, отбывающие наказание за наркотики.*

## Лязг электрозамка

Первое впечатление от посещения этих учреждений – не лай рвущихся с поводка овчарок, как можно было бы подумать, а лязг электрозамка. Он сопровождал постоянно (ведь при переходе из одной части учреждения в другую надо проходить через железные ворота), стал камертоном «тюремного» дня. Этот звук для десятков тысяч заключенных и еще большего числа их родных и близких делит жизнь на два мира. Волю и неволю.

*«Заходим по трое»*, – скомандовали на входе в СИЗО №6. И начальник учреждения на улице Брестской в Барановичах полковник **Александр Якжик** был сразу просто-таки атакован моей молодой коллегой из местного издания, беспрестанно бомбардировавшей его вопросами, в том числе и весьма наивными. Но ему, видать, не впервой: отвечал, был радушен и хозяйство свое показывал с видимым удовольствием.

Место это жуткое: во время Второй мировой на территории польской тюрьмы фашисты разместили лагерь. В шталаге погибли тысячи и тысячи военнопленных… Сразу после войны советская власть организовала здесь пересыльную тюрьму. В том числе и для тех же военнопленных, которых из немецкого концлагеря отправляла в ГУЛАГ.

Сейчас СИЗО, в котором находится около 700 мужчин и женщин, стало «солянкой». Здесь и арестный дом (в нем содержится около 300 осужденных), и «этапные зэки» ждут отправки в колонии, и четыре десятка заключенных хозобслуги отбывают срок, и ожидают суда около трех сотен находящихся под следствием человек.

Почти всех их на мониторе компьютера в любой момент может увидеть не только дежурный, но и начальник СИЗО и его заместитель. На некоторых из них удалось взглянуть.

*«…гражданин начальник»*, – долетело из камеры, в которую шагнул Якжик. Следом – я. Трое «малолеток» здесь не случайно – это было видно по взглядам исподлобья, тому, каким недобрым блеском сверкали их глаза. И эта шпана, которая ждет суда по 339-й и 205-й статьям («хулиганство» и «кража»), наверняка продолжит жить за колючей проволокой. Уж больно выразительными были их лица: неспроста они дожидаются суда за решеткой.

А вот взгляд хрупкой девушки, в прачечной латающей на швейной машинке белье, был каким-то затравленным. На диктофон в руках журналиста она глядела со страхом, как на дубинку.

…А вот моя активная коллега с видимым удовольствием дала «откатать пальцы», хотя ее и предупредили, что ярко-красный маникюр будет испорчен: отмыть из-под ногтей черную краску весьма непросто.

## В автобусе с убийцей

Следующим пунктом была ИУОТ №52, до которой мы добрались на микроавтобусе минут за 20. Попросту – «химия». Это учреждение – самое молодое в системе УДИН МВД по Брестской области. Подполковник **Андрей Пальчик** рассказал, что в 2006-м на базе детского приемника-распределителя было создано учреждение открытого типа, в котором сейчас находятся полсотни мужчин и 29 женщин.

И если представители сильного пола – это те, кто досиживает свой срок за кражи да «алиментщики», то женщины осуждены за убийства и тяжкие телесные повреждения, повлекшие смерть...

Когда все та же любопытная коллега из барановичской газеты узнала, что все осужденные свободно перемещаются по городу на работу и с нее, то с ужасом в глазах вскрикнула: *«Это что, я могу в автобусе с убийцей ехать и не знать об этом?»* *«Да»*, – хладнокровно ответствовал Пальчик.

Он рассказал, что в ИУОТ №52 осужденные попадают из колонии-поселения, и только после того, как проявят себя положительно. Плавный переход позволяет людям, которые за долгие годы за решеткой разучились принимать самостоятельные решения, приготовиться к выходу на волю.

*«Они сами стирают, готовят, без конвоя ездят на работу и с нее, ходят в магазины. Но при этом с 10 вечера до 6 утра должны находиться на территории учреждения»*, – поясняет начальник «химии». – *Это помогает социализации людей, они привыкают быть ответственными за себя».*

Некоторые настолько социализировались, что даже решили жениться. *«Но отдельное помещение им не выделено: все осужденные живут либо в мужских, либо в женских комнатах»*, – рассказывает о своих подопечных Пальчик. «А как же они… встречаются?» – изумленно вопросила барановичская журналистка.

Это так и не было прояснено.

## Указание сверху

Переезд из Барановичей в «колонию для наркоманов» был недолгим. Расположена ИК №22 в 9 километрах от станции Доманово, в лесу. Когда-то тут была военная часть, а в 1993-м было принято решение «перепрофилировать объект». Но до появления в «Волчьих норах» первого заключенного прошло аж 7 лет: первый этап осужденных прибыл в колонию строгого режима 4 января 2000 года.

До 2007-го заключенных было не более 550. В тот год колонию сделали «специализированной» – для лиц, впервые осужденных по 328-й статье («незаконный оборот наркотических средств, психотропных веществ, их прекурсоров и аналогов»). А затем пошли дальше и увеличили «предельную численность спецконтингента» – сразу до 800 человек.

Выяснить, когда это было сделано – до слов главы государства о создании невыносимых условий для осужденных по «наркостатье» или после – не удалось. Напомню его слова в декабре 2014-го: *«Давайте одну из колоний отжалеем для этого… установим им такой режим, чтобы они, сидя в этой колонии, прямо скажу, смерти просили. То же самое и для распространителей»*.

Внимание: «и для»! То есть главным белорусским чиновником санкционировано жестокое отношение не к дилерам даже, а к наркоманам… Можно ли после этого поверить, что в «Волчьих норах» не волчьи порядки?

Кстати, сидят в ИК №22 далеко не только наркодилеры. Ведь ужесточение приговоров, «натягивание» второй-третьей частей 328-й статьи (сбыт и участие в группе) стали – по информации правозащитников – одними из последствий «ужесточения борьбы»…

Это подтвердила и одна из матерей, сгрудившихся у входа в комнаты для свиданий. *«Помогите нашим детям выйти отсюда*, – отчаянно закричала она журналистам, – *здесь должны сидеть наркодилеры, а не наши дети!»* Никто не ответил ей – помочь выбраться из «Волчьих нор» никто из нас возможности не имеет…

*«Грибы есть?»* – поинтересовался спецкор областной «Зари» у одного из дежурной смены на КПП. *«Да, белые были на выходных»*, – простодушно ответил он. *«Осенние уже?»* – спросил коллега пенсионного возраста. *«Да нет, летние еще»*, – подвел черту под разговором милиционер. Каждому свое – подумал я в ту секунду. Кому забота о тихой охоте, а кому тяжкие думы о годах, которые предстоит провести за решеткой.

## 10 лет за 10 граммов

Мысли эти наверняка посещают только что прибывших: сразу за воротами в колонию они попадают в карантин, где осужденные, как правило, находятся до двух недель. Он не пустовал: полтора десятка человек выстроили в крохотном внутреннем дворике. Почти все – молодые, даже юные ребята.

Стоят, понурив головы, но на вопросы отвечают. Один из них, 18-летний невысокий бледный паренек, уже отсидел два года из восьми. Сюда попал из колонии для малолетних. Другой, 21-летний Дмитрий из Гродно, получил 10 лет по третьей части. *«Большой объем?»* – интересуюсь. *«10 граммов. Но они мне не принадлежали, и были найдены не в моей машине»*, – как к последней инстанции обращаясь, с явной надеждой в голосе добавляет он. И смотрит глазами, почти как у кота из мультика про Шрека.

На первый взгляд удивительно: как могли дать огромный срок человеку, которому эти наркотики не принадлежали, да еще и найдены были не в его машине? *«А кто ж на своей будет перевозить*, – усмехаясь, отвечает начальник колонии подполковник **Андрей Квашевич**. – *Не стоит верить всему, что они скажут».*

Именно из карантина была осуществлена единственная в истории колонии попытка побега: *«Прибывший в 2013-м в карантин осужденный понял, что ему здесь будет не совсем… уютно. Но назвать это попыткой сложно: он залез на основное заграждение и ждал, когда его снимут. Потом экспертиза в рамках уголовного дела признала его невменяемым»*, – поведал начальник ИК №22.

15 лет назад Квашевич пришел сюда лейтенантом-оперативником. В ту пору колония еще не была «специализированной», и сидельцы в ней проходили по всяким статьям: от кражи до убийства. *«И некоторые носили полосатые робы. Их так и звали: «полосатики»*, – вспоминает он былые дни.

## Зеленые бирки и рыжая бабка

Теперь почти все в зоне носят зеленые бирки. Сначала были того же цвета нашивки, но когда журналисты сравнили их с желтыми «звездами Давида», которые должны были нашивать на одежду евреи во время войны, стыдливо заменили бирками. В столовой интересуюсь у повара: не унижают ли их эти бирки? *«Нет, ведь они почти у всех в колонии. Черные только у некоторых, что остались тут с давних времен. Их человек 20»*, – несколько отрешенно говорит парень. До конца срока ему немного, 2,5 года из восьми. *«Ошибка молодости*, – говорит получивший профессию еще на свободе молодой человек. – *По глупости сюда попал. Сейчас не вляпался бы ни за что».*

Глупость или нет, но третья часть – это третья часть… Это либо действия в группе, организовавшей изготовление/сбыт/перевозку, либо «крупный размер». И ему еще повезло: приговор он услышал 5,5 года назад и получил минимум, обозначенный в ч.3 ст.328 УК Беларуси. Если бы его дело рассматривалось на пару лет позже, то мог бы и на 10 лет сесть, и на 12.

Пока журналистов уговаривают попробовать блюдо из раскладки по нормам «5а» и «5б» (диета), интересуюсь у наливающего чай (*«грузинский черный»*) повара: много ли заключенных питаются картофельно-морковной запеканкой вместо стандартных макарон? *«В этом месяце – 53 человека»*. Пока коллеги пробуют «бабку», изучаю меню. Макароны да суп – вот пища заключенных в день приезда журналистов.

Столовая довольно просторная, мебель не старая. Сколько же человек одновременно могут оценить не слишком разнообразное (не санаторий же на самом деле) меню? Оказалось, 300.

Другая впечатляющая цифра – количество свадеб, которые «играют» в местной церкви, не менее удивительна. *«До десяти в месяц»*, – выдает начальник колонии. *«В месяц?!»* – ракетой взлетают вверх нарисованные брови юной акулы пера. *«И девушек, которые едут в колонию расписываться, с каждым месяцем все больше и больше. Сидят же здесь в основном молодые»*, – с добродушной усмешкой комментирует он статистику, поразившую воображение представительницы прекрасной половины человечества.

Чтобы не оставалось недомолвок о «почти всех», прошу у Квашевича выдать очередную дозу цифр: о возрасте «сидельцев». *«От 18 до 20 лет – 62 человека, от 20 до 30 – 669, от 30 до 40 – 236, от 40 до 50 – порядка 50-ти»*, – выдает подготовившийся к визиту журналистской братии подтянутый подполковник.

В отличие от подавляющего большинства своих предшественников, фото которых висят в штабе, Андрей Сергеевич, не первый год сидящий в кресле начальника колонии, поджар и выглядит молодцевато. Наверняка следит за своим здоровьем и занимается спортом.

О том, как следят за здоровьем заключенных, чуть ниже. А пока – о «спортивной составляющей» лагеря и поддержании здорового духа в здоровом теле.

В центре зоны, окруженной лесом и занимающей территорию в 18,5 гектара, расположена сверкающая желтыми куполами церковь, в которой проводятся еженедельные богослужения приезжающим для этого православным служителем. А рядом – выглядящая очень аскетично бетонная баскетбольная площадка, на которой к нашему визиту не нанесли новую разметку, и футбольное поле. Ворота, кстати, тоже не покрашены.

То, что спортивные снаряды не обновили, говорит о том, что они активно используются. Яркое тому подтверждение – футбольное поле. На нем ни травинки! А вот за воротами с обеих сторон – радующий глаз изумрудный газон.

Бедным родственником голливудских тюремных тренажерных залов выглядит «тренажерка» в «Волчьих норах»: всего два снаряда, – видать, бодибилдинг тут не в почете…

**Олег ШЕПЕЛЮК.**

***(Продолжение в следующих номерах «Народной Воли».)***

ДЛЯ ВЯСЁЛАЙ КАМПАНІІ

## Мой край

Словы А.Русака.
Музыка Я.Ціхановіча.

Куды ні йду – лясы шумяць,
Цвіце за полем гай…
А поле вокам не абняць –
І гэта ўсё мой край. } 2 разы

Жыве, працуе мой народ
Ці ў снежань, ці у май.
І багацее з году ў год
Мой родны вольны край. } 2 разы

Куды ні йду – лясы шумяць,
За полем рэчка, гай.
А ў сэрцы песень
не стрымаць
Пра мой любімы край. } 2 разы

ДУХОЎНЫ СКАРБ

# У Гродне і ідэолаг, і бацюшка гаварылі па-беларуску

"Мноства працаўнікоў на ніве народнай асветы як царкоўных, так і свецкіх на працягу стагоддзяў узбагачалі духоўнай велічу наш унутраны свет, спрыяючы станаўленню і развіццю беларускай нацыі", – адзначыў у сваім выступленні клірык гродзенскага Свята-Пакроўскага кафедральнага сабора протаіерэй **Уладзімір Барысевіч** на гарадскім святе беларускага пісьменства, якое прайшло 1 верасня ў Цэнтры культуры: "Няхай кожны з нас незалежна ад сваіх эстэтычных густаў, грамадзянскай пазіцыі памятае пра тое, што ён беларус, што ён хрысціянін, чалавек, які зробіць правільны выбар на карысць міру, любові і згоды".

Па-беларуску віншаваў з 500-годдзем беларускага кнігадрукавання і намеснік начальніка аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Гродзенскага гарадскога выканаўчага камітэта **Аляксандр Вайтуляніс.** Гэта тым больш важна, што аўдыторыя складалася амаль выключна са старшакласнікаў.

Выкладчык кафедры беларускай філалогіі Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Янкі Купалы **Святлана Мікалаеўна Тарасава** ўзгадала пра юбілей нашых слынных песняроў – Янкі Купалы і Якуба Коласа, 105-годдзе якіх адзначаецца ў 2017-м. Яна распавяла, што з Гродзеншчыны ідуць карані роду Янкі Купалы па мацярынскай лініі: "І па сённяшні дзень на Гродзеншчыне раскіданы нашчадкі Купалаўскага роду". Менавіта на Гродзеншчыне яго імя стала надавацца разнастайным культурным установам раней, чым у астатніх частках Беларусі.

З урыўкам са спектакля "Раскіданае гняздо" на мерапрыемстве выступілі артысты Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. А супрацоўнікі Гродзенскай цэнтральнай бібліятэкі імя А.Я.Макаёнка падрыхтавалі выставу "Беларускі тытан эпохі Адраджэння", прысвечаную Францыску Скарыну.

ВЫСТАВА

# Яўрэі ў змаганні за Польшчу

*"Учора адзін мой сябар напісаў: ходзяць чуткі, што адменяць выставу і забароняць выстаўляць экспанаты. Што ж, у нас усё магчыма"*, – так пракаментаваў для "Народнай Волі" адкрыццё выставы "Яўрэі ў польскім войску" **Яўген Калодзін**, дырэктар прадстаўніцтва асацыяцыі іўдзея-хрысціянскага дыялогу "ШОМЕР-Інтэрнэшнл". Прэзентацыя выставы адбылася 1 верасня ў Вялікай харальнай сінагозе Гродна, дзе прысутнічалі не толькі прадстаўнікі яўрэйскай дыяспары і кіраўніцтва польскай амбасады, але і святар мясцовай лютэранскай абшчыны, а таксама настаўнікі і вучні шэрагу школ.

Занепакоенасць гарадскіх улад, відавочна, была выклікана магчымасцю ўдзелу ва ўрачыстасцях віцэ-маршалка польскага Сейма **Рышарда Тарлецкага** і апаскай, што гэта можа паспрыяць ператварэнню гэтай імпрэзы ў "палітычную польскую акцыю". Аднак польскі палітык з'ехаў напярэдадні. У выніку адкрыў выставу генеральны консул Рэспублікі Польшча ў Гродне **Яраслаў Ксёнжэк**, на дакладных прыкладах распавёўшы пра ўдзел яўрэяў у польскім войску. І са спадзяваннем падкрэсліў, што такія мерапрыемствы неабходны, каб "1 верасня" (маючы на ўвазе 1 верасня 1939 года) больш ніколі не паўтарылася, і што *"гэтая выстава адкрылася не толькі ў гэтай сінагозе, але і ў нашых душах і нашых сэрцах"*.

Для "Народнай Волі" Ксёнжэк адзначыў: *"Людзі яўрэйскага паходжання таксама змагаліся за Польшчу, і, як казаў тут прадстаўнік яўрэйскай супольнасці, шкодным стэрэатыпам з'яўляецца сцвярджэнне пэўнымі асобамі, што ўсе яўрэі – Ротшыльды, а ўсе палякі – антысеміты"*.

Святар лютэранскай абшчыны Гродна **Уладзімір Татарнікаў** адзначыў: *"Трэба захоўваць памяць пра розныя падзеі, мы нічога не павінны забываць, і давайце радавацца таму, што мы сёння можам размаўляць на роўных, нягледзячы на нашу нацыянальнасць, канфесію і рэлігію"*. З ім пагадзіўся кіраўнік яўрэйскай абшчыны **Барыс Квяткоўскі**: *"Выстава смелая, выстава патрэбная, і дзякуй Богу… такія часы надышлі, калі мы пра гэта можам казаць свабодна"*.

Выстава была падрыхтавана на сродкі амбасады Польшчы ў Гродне з мэтай паказаць несправядлівасць стэрэатыпнага ўспрымання яўрэйскага народа адзіна як "ахвяры Халакосту" і палякаў як "антысемітаў". Яўрэі пачалі браць удзел у войску Рэчы Паспалітай у часы паўстання Тадэвуша Касцюшкі, калі пад кіраўніцтвам Бэрэка Яселевіча быў створаны Ветхазапаветны полк лёгкай кавалерыі. Удзельнічалі яны ва ўсіх важнейшых вайсковых падзеях польскай гісторыі XIX–XX стагоддзяў. У міжваенны час для іх былі створаны ўсе ўмовы, каб заставацца нават у войску іўдзеямі, у тым ліку за кошт ужывання кашэрнай ежы.

Як адзначана на выставе, у верасні 1939 года колькасць яўрэяў у польскім войску складала каля 100 тысяч чалавек, або амаль 10 працэнтаў ад усіх мабілізаваных. З іх у баях загінулі каля 8 тысяч, яшчэ 60 тысяч былі знішчаны войскамі СС у гета і лагерах смерці як грамадзянскае насельніцтва.

У створанай у СССР арміі Андэрса налічвалася каля 3 тысяч яўрэйскіх жаўнераў, як адзначана ў матэрыялах выставы, большасць з іх пасля адпраўкі ў Іран дэзерціравала і ўступіла ў шэрагі ўзброенай арганізацыі "Хагана", якая змагалася з брытанцамі ў час іх мандата ў Палесціне, імкнулася стварыць незалежную дзяржаву Ізраіль. Генерал **Уладзіслаў Андэрс** нават тайна загадаў пераследаваць гэтых салдат. У бітве пад Монтэ-Касіна ўдзельнічалі каля 850 яўрэяў, 40 з якіх загінулі, больш за сотню атрымалі ўзнагароды.

Першым горадам, у якім была паказана выстава, стала Іўе. У Гродне, калі не пацвердзяцца чуткі аб яе закрыцці, яна будзе дзейнічаць да 25 верасня. Час працы – з 9 да 18 гадзін. Уваход вольны.

**Васіль ГЕРАСІМЧЫК.**

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Хто мае 60 тысяч долараў, а хто – нічога

*Дзмітрый Гаўрылаў – беларускі плывец у ластах. Спартсмен з Наваполацка з'яўляецца шматразовым прызёрам чэмпіянатаў свету і Еўропы. На Сусветных гульнях у Польшчы Дзмітрый заваяваў золата і бронзу. «Народная Воля» паразмаўляла з ім не толькі аб мінулым турніры ў Вроцлаве.*

### Выступленні за ідэю

– На папярэдніх спаборніцтвах, каб стаць першым, мне не хапала адной-дзвюх сотых секунды, – *распавядае Дзмітрый Гаўрылаў*. – І такая сітуацыя захоўвалася некалькі гадоў. У Польшчу першапачаткова я адбіраўся на дыстанцыю 100 метраў. Але пазней мяне таксама ўнеслі ў спіс удзельнікаў і на 50 метраў. Калі я праплыў дыстанцыю, якую не павінен быў плыць, і заняў 3-е месца, арганізатары скакалі ад радасці. Не павінен быў плыць наогул, а паказаў такі вынік!

На дыстанцыі сто метраў узяў золата.

**– Наколькі ведаю, у Наваполацку ёсць праблема з басейнамі ў летні перыяд?**

– Так. Я зараз не трэніруюся ў басейне, а ўжо 21 верасня выезд на фінал Кубка свету ў Турцыі.

**– Можа, у Заходняй Дзвіне хутка трэніравацца прыйдзецца?**

– Спадзяюся, што да гэтага не дойдзе. Пэўную базу можна мець на возеры, каб не губляць адчуванне вады, мышцы трымаць у форме і гэтак далей. Але калі гаворка ідзе аб прафесійных трэніроўках, то патрэбны басейн. На зборы можна ездзіць у Мінск, але ўсё ўпіраецца ў фінансаванне. Падводнае плаванне – неалімпійскі від спорту, ён адносіцца да ДТСААФ.

Безумоўна, матэрыяльная падтрымка пакідае жадаць лепшага.

**– Пасля перамогі на Сусветных гульнях сітуацыя можа змяніцца?**

– Сусветныя гульні ў нас лічацца звычайнымі спаборніцтвамі, хоць для неалімпійскіх відаў спорту гэта турнір найвышэйшага ўзроўню.

Венгерскі спартсмен зарабляе за першае месца на Сусветных гульнях 60 тысяч еўра, праблемная Украіна сваім плаціць 30 тысяч долараў. Мы выступаем за ідэю, але, спадзяюся, гэта ў бліжэйшым часе зменіцца.



### З трэнерскімі перспектывамі

**– Ёсць меркаванне, што поспех спартсмена ў большай ступені залежыць ад трэнера, бо талент трэба ўбачыць і развіць...**

– Цалкам згодны. Поспех на 70 працэнтаў залежыць ад прафесіяналізму трэнера і ўзаемадзеяння з ім. Вельмі важна, як яны са спартсменам разумеюць адзін аднаго. Мне пашанцавала: з Віктарам Раманавічам Страмяковым сябруем, разам адзначаем святы. Не кажучы ўжо пра яго індывідуальны падыход да трэніровак.

**– Аляксандра Герасіменя ў адным інтэрв'ю сказала: *«Перад стартам, вядома, вельмі хвалююся. Не ведаю ні аднаго спартсмена, які не адчуваў бы хвалявання. Але гэта добра. Калі ты хвалюешся, значыць, ты неабыякавы да справы, якой займаешся. Галоўнае – знайсці спосаб сябе супакоіць. У кожнага спартсмена свая методыка»*. У вас якая?**

– Імкнуся абстрагавацца, каб не перагарэць за некалькі хвілін да старту. Трэба спачатку праплысці дыстанцыю ў думках, каб выключыць усе недакладнасці. Любая памылка – і ты другі.

На Сусветных гульнях я быў больш спакойны, бо на папярэдніх спаборніцтвах прааналізаваў недахопы і на трэніроўках выправіў іх. Быў гатовы на ўсе сто працэнтаў.

**– Вы не толькі спартсмен, але і малады трэнер…**

– Так, пачынаю трэніраваць, бо са спортам калісьці прыйдзецца закончыць. Таму рыхтую сабе базу, набіраюся вопыту. Адразу перайсці са спартыўнай дзейнасці на трэнерскую – вельмі складана. Сёння трэнер пасля ўніверсітэта зарабляе 200–300 рублёў.

**– Адна высокапастаўленая чыноўніца лічыць, што да такой зарплаты трэба адэкватна ставіцца...**

– Шчыра кажучы, мне такія заявы незразумелыя. Спартыўныя чыноўнікі дзівяцца, калі маладыя трэнеры ідуць працаваць за такія грошы. Але дзякуючы спорту я выходжу з гэтай сітуацыі. У далейшым спадзяюся стаць таленавітым трэнерам і рыхтаваць спартсменаў міжнароднага ўзроўню.

**Раман ВАСЮКОВІЧ.**

МЕРКАВАННЕ

# Што адрознівае беларускую зборную па футболе ад аркестра Міхаіла Фінберга?



Ганебнай паразай для нацыянальнай зборнай Беларусі па футболе скончыўся чарговы адборачны матч да чэмпіянату свету. Пры паўпустых трыбунах "Барысаў-Арэны" футбалісты Ігара Крывушэнкі прайгралі шведам – 0:4.

Таму, хто вытрываў і паглядзеў усё ад пачатку да канца, няма сэнсу яшчэ раз апісваць падрабязнасці і акалічнасці разгрому беларусаў, пасля якога нацыянальная каманда апусцілася на самае дно сваёй адборачнай групы, прапусціўшы наперад нават паўаматараў з Люксембурга.

Дно беларускага футбола – гэта нават не апошні радок у турнірнай табліцы. Дно айчыннага футбола – гэта тое, як бачаць развіццё гэтага віду спорту тыя, хто ім кіруе. А яны, такое адчуванне, яго ніяк не бачаць. Таму што развіваецца ў нас футбол бессістэмна, хаатычна. Гэта значыць – ніяк.

Няма развіцця – няма выніку.

Як выратаваць беларускі футбол ад ганьбы на міжнароднай арэне? Ці павінен галоўны трэнер зборнай Беларусі Ігар Крывушэнка падаць у адстаўку пасля такой бязвольнай гульні сваіх падапечных? Дзе і як знайсці хаця б 11 беларусаў, якія маглі б паказаць прыстойны футбол?

На гэтыя пытанні ў эксклюзіўным каментарыі для «Народнай Волі» адказвае чэмпіён СССР па футболе, мінскі дынамавец Валерый Мельнікаў.

– Асабіста я паглядзеў абсалютна нармальны, якасны футбол у выкананні зборнай Беларусі… першыя хвілін 10–15, – гаворыць Валерый Анатольевіч. – На большае нас не хапіла. Калі гаварыць сур'ёзна… Так, як гулялі людзі ў форме зборнай Беларусі, – так гуляць нельга! І не трэба быць у гэтым пытанні экспертам. Тое, што нашы гуляюць ва што заўгодна, але толькі не ў футбол, відавочна нават бабулькам, якія сядзяць на лавачках ля пад'ездаў.

**– Ці па-мужчынску гучаць словы галоўнага трэнера нашай зборнай Ігара Крывушэнкі аб тым, што схема, паводле якой гуляе ягоная зборная, цалкам нармальная, проста выканаўцы пад гэтую схему дрэнныя?**

– А што Крывушэнка? Ён проста прыгожы мужчына ў самым росквіце сіл. Да яшчэ ў прыгожай кашулі. Канечне, гэтыя ягоныя словы гучаць не надта па-мужчынску. Ты ж галоўны трэнер, менавіта ты і падбіраеш выканаўцаў пад тую схему, паводле якой гуляе каманда.

Ведаеце, што адрознівае нашу нацыянальную зборную па футболе ад аркестра Міхаіла Фінберга? Калі ў аркестры Фінберга нехта фальшывіць – ён проста перастае там працаваць. У нашай жа зборнай – наадварот. І, канечне, віна Крывушэнкі ў гэтым ёсць. Чалавек ведаў, куды ішоў і на што ішоў. Да гэтага ён пяць гадоў працаваў у жодзінскім "Тарпеда" і як ніхто іншы, здавалася б, павінен ведаць здольнасці футбалістаў, якія выступаюць у нашым унутраным чэмпіянаце. Але ў зборную ён, на маю думку, чамусьці выклікае не тых…

**– Дык, можа, і няма лепшых?**

– Магу даць бясплатную параду. Калі трэнерскі штаб не ў стане знайсці ў краіне 11 чалавек, здольных проста і дакладна давесці мяч да чужых варот, то трэба дзейнічаць іншым шляхам. І шукаць, можа, не ў футбольных клубах. Па ўсёй краіне працуюць так званыя біржы занятасці. Можна прыйсці туды і пакінуць заяўку на вакансію: "Патрабуецца цэнтральны абаронца ў нацыянальную зборную". Адгукнецца чалавек 10 – паверце, адзін-два падыдуць. Да таго ж трэба, як у савецкія часы, шукаць таленты. Але я ўпэўнены, што рабіць гэта трэба не ў Мінску, дзе дзеці вар'яцеюць ад камп'ютараў і гаджэтаў. Трэба ехаць у глухія беларускія вёскі – шукаць таленты там. Можа, нешта і атрымаецца. Бо калі сёння наш 23-гадовы спартсмен лічыцца маладым, які падае вялікія надзеі, – гэта смеху варта! У нармальных краінах футбалісты на трэцім дзясятку жыцця лічацца лідарамі сваіх каманд. Карацей, калі мы хочам палепшыць становішча спраў у айчынным футболе, трэба мяняць падыход. Трэба скараціць вышэйшую лігу – з 16 да 10 каманд, трэба адкрываць новыя імёны…

**– Ці павінен, на ваш погляд, галоўны трэнер набрацца мужнасці і сказаць: я не справіўся, я сыходжу, хай спрабуе іншы?**

– Ці многа вы ведаеце прыкладаў у нашай краіне, калі чалавек, які займае больш-менш прыстойную пасаду, сыходзіць з яе сам? Зараз і няма вялікага сэнсу мяняць трэнерскі штаб – няхай дапрацоўвае гэты адборачны цыкл. А вось потым варта шукаць іншых людзей, гатовых радыкальна змяніць падыход да працы.

**– У гэтым адборачным цыкле нашай зборнай засталося правесці дзве сустрэчы – з галандцамі і французамі. Ці рызыкняце зрабіць прагноз на іх вынік?**

– І беларускім футбалістам, і беларускім заўзятарам будзе балюча. Вельмі балюча…

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**




АЗБУКА САДОВОДА

## Пришло время убирать плоды

Преждевременный или запоздалый сбор плодов не только может ухудшить их внешний вид, но и отрицательно сказаться на вкусовых качествах и лежкости.

При установлении сроков съема используют различные показатели: изменение основной окраски плода, прочность прикрепления его к плодушке, плотность мякоти, содержание крахмала, возраст плода в днях с момента опадания лепестков, потемнение семян, интенсивность дыхания, появление характерных для данного сорта вкуса и аромата, а для некоторых сортов – консистенция мякоти и так далее. Отдельно взятый показатель не дает достаточных оснований для определения оптимального срока съема плодов. Момент уборки урожая будет более точным, если его установить по ряду показателей.

Летние и осенние яблоки могут быть на дереве до тех пор, пока не появятся первые признаки опадания здоровых плодов. Яблоки зимних сортов снимают задолго до наступления потребительской зрелости. Плоды большинства сортов груши снимают на хранение твердыми (в начале высветления и появления легкой желтизны).

В условиях любительского сада яблоки основных сортов, подлежащих хранению, лучше снимать в 2–3 приема. Пепин шафранный снимают при бледно-розовой окраске плодов в начале съемной зрелости, Антоновку обыкновенную и Уэлси – когда яблоки начнут белеть, яблоки Осеннего полосатого и Мелбы – при потемнении семян.

НАРОДНЫЕ ПРИМЕТЫ

## …И о погоде

Обратите внимание на признаки, которые говорят о том, что дождя не будет. Белые облака наподобие растянутой шерсти. Скоро расходящиеся исчезающие облака. Расходящиеся во время дождя облака со стороны ветра. Идущие с востока на запад облака утром или вечером. Ветер во время тихого дождя. Редкие бледные в середине или по краям облака во время дождя. Красноватый или темно-пурпурный цвет облаков перед закатом солнца. Зарница на горизонте при ясном небе. Спускающиеся и как бы расстилающиеся по земле облака. Дымчатое облако на горизонте после небольшого дождя. Облака к вечеру красные, а утром сероватые.

Туман, опускаясь, ложится на землю – будет хорошая погода. Под вечер туман поднимается от земли или от воды – предстоит жаркий день. Туман поднимается над поверхностью воды или болотистой сырой местностью в виде облака – будет ясная погода.

А вот о чем говорят звезды. Если большие звезды кажутся заключенными в круги – будет дождь. На безоблачном небе видно мало звезд – наступит продолжительная сырая погода. Звезды кажутся неясными и едва видны – будет дождь. На чистом небе не видно малых звезд – предстоит буря. В одной стороне неба видно звезд больше обыкновенного – с той стороны следует ожидать сильного ветра, летом с дождем, а зимой с большими морозами.

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО…

## Как без весов взвесить продукты

**Таблица перевода мер различных продуктов в граммы**

| Название продукта | Содержание | | |
|---|---|---|---|
| | Стакан (250 мл) | Столовая ложка | Чайная ложка |
| Горчица | – | – | 4 |
| Гвоздика молотая | – | – | 3 |
| Гвоздика немолотая | – | – | 4 |
| Желатин (порошок) | – | 15 | 5 |
| Изюм | 165 | 25 | – |
| Толченые орехи | 120 | 20 | 6–7 |
| Масло растительное | 230 | 20 | – |
| Повидло | – | 25 | – |
| Перец душистый | – | – | 4,5 |
| Перец красный молотый | – | – | 1 |
| Перец черный | – | – | 5 |
| Сало топленое | – | 12 | – |
| Смалец нерастопленный | 230 | 60 | – |
| Смалец растопленный | 200 | 40 | – |
| Сахарный песок | 200 | 30 | 12 |
| Сахарная пудра | 190 | 25 | 7–8 |
| Соль | 325 | 30 | 10 |
| Томат-паста | – | 30 | 10 |
| Томат-пюре | 220 | 25 | 8 |
| Уксус | 250 | 15 | 5 |
| Черника сушеная | 130 | 15 | – |

**Примерное содержание пряностей в 1 г**

| | |
|---|---|
| Лавровый лист среднего размера | 7 шт. |
| Гвоздика | 12 шт. |
| Перец горький | 30 шт. |
| Перец душистый | 15 шт. |

**Масса 1 шт., г**

| | |
|---|---|
| Картофель средний | 100 |
| Морковь средняя | 75 |
| Лук средний | 75 |
| Огурец средний | 100 |
| Петрушка | 50 |
| Яйцо малое, среднее, большое | 45, 55, 65 |
| Яичный белок | 30 |
| Яичный желток | 20 |

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Не ждите холодных ночей

* У томата собирать лучше зрелые плоды, в них больше витамина С и каротина. Но если на вашем участке фитофтороз, можно полностью потерять урожай. Поэтому не дожидайтесь, пока плоды созреют на корню, убирайте бурыми и белесоватыми, когда они достигнут определенного размера и приобретут блеск. При дозаривании в сухом помещении в них накапливается каротин и ликопин. Плоды старайтесь снимать с плодоножкой. Своевременная уборка поможет избежать их почернения.

* Внимательно следите за температурой. Если она днем 20 градусов, а ночью опускается ниже 10, то при высокой влажности (туманы) немедленно появляется фитофтороз. После одного-двух туманов собирайте все, даже зеленые плоды. Чтобы убить споры, находящиеся на поверхности плодов, опустите их в горячую воду (60 градусов) на 1–2 минуты, а затем хорошо просушите и уложите на хранение. Уборку завершайте до наступления холодных ночей, когда температура опустится до 8 градусов тепла.

* Дозреванию томатов способствует накрытие их пленкой. В солнечную погоду не забывайте ее снимать, а на ночь снова тщательно укрывайте растения. Можно снять крупные томаты, а растения с мелкими плодами вырвать с корнем и подвесить стеблями вниз в теплом помещении. Произойдет отток питательных веществ из листьев и стеблей в плоды, ботва усохнет, а плоды таким образом дойдут до кондиции.





**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а. Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 04.09.2017 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 015 экз. Заказ № 3271.